# КАНДЫДАТ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ІВАЦЭВІЦКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУЗЕ № 20 ДЫРЭКТАР ГАНДЛЁВА-ПРАМЫСЛОВАЙ ФІРМЫ "ІВАЦЭВІЧЫ"

# Уладзімір Аляксеевіч КУДЗІНАЎ



## Біяграфічныя звесткі

*У. А. Кудзінаў нарадзіўся 11 чэрвеня 1959 года ў вёсцы Танежыцы Слуцкага раёна. Беларус. Маці – настаўніца, бацька – рабочы. Жанаты. У сям'і выхоўваюцца дзве дачкі.*

*У 1976 годзе У. А. Кудзінаў закончыў сярэднюю школу і паступіў вучыцца ў Беларускі політэхнічны інстытут на інжынерна-эканамічны факультэт. У 1981 годзе паспяхова закончыў яго і, нягледзячы на прапанову кіраўніцтва інстытута працягваць вучобу ў аспірантуры, паехаў працаваць у Івацэвічы.*

*1981–1990 г.г. – працаваў нарміроўшчыкам, юрысконсультам, галоўным бухгалтарам установы УЖ 15/5.*

*1990–1991 г.г. – выконваў абавязкі галоўнага падатковага інспектара, начальніка аддзела і намесніка начальніка падатковай інспекцыі па Івацэвіцкім раёне пры Міністэрстве фінансаў Рэспублікі Беларусь.*

*З 1992 года з'яўляецца дырэктарам гандлёва-прамысловай фірмы „Івацэвічы". За няпоўныя тры гады фірма пад яго кіраўніцтвам ператварылася ў адно з самых магутных камерцыйных прадпрыемстваў Брэсцкай вобласці. Яна аб'ядноўвае 25 стацыянарных магазінаў, падсобную гаспадарку, аўтазаправачную станцыю, вядзе будаўніцтва жывёлагадоўчага комплексу ў Гічыцах, аўтазаправачнай станцыі, прадуктовага магазіна і платнай стаянкі аўтатранспарту ў горадзе Брэсце, дзе працуюць больш за 300 работнікаў розных спецыяльнасцей. Сярэдняя заработная плата працуючых за кастрычнік г. г. склала 927000 рублёў. З моманту стварэння фірмы тут не было ніводнага выпадку затрымкі заработнай платы.*

*Гандлёва-прамысловая фірма „Івацэвічы" ўзяла на сябе клопат па забеспячэнню насельніцтва раёна прадуктовымі і прамысловымі таварамі. Яе падсобная гаспадарка пастаўляе ў магазіны свежае мяса, каўбасныя вырабы. У бліжэйшым будучым спажыўцы раёна будуць атрымліваць і фірменныя кандытарскія і хлебабулачныя вырабы.*

*Нават гэты павярхоўны і беглы пералік сфераў дзейнасці фірмы паказвае, што шматгаліновая гаспадарка патрабуе ад яе кіраўніка вялікіх тэарэтычных і практычных ведаў, арганізацыйных здольнасцей.*

*У. А. Кудзінаў не з'яўляецца членам ніводнай з існуючых партый, актыўна супрацоўнічае з людзьмі незалежна ад іх палітычных поглядаў, ідэалагічных і рэлігійных перакананняў. Вядзе вялікую дабрачынную дзейнасць. За мінулы год, прайшоўшыя месяцы гэтага года арганізацыям, установам, таварыствам і асобным грамадзянам раёна аказана бязвыплатная дапамога на 100 мільёнаў рублёў. Яе атрымлівалі і медыцынскія ўстановы, і царква, і школьнікі, і інваліды, і проста людзі, якія трапілі ў бяду. Восем маладых людзей з нашага раёна вучацца ў ВНУ рэспублікі за кошт сродкаў фірмы „Івацэвічы".*

*У. А. Кудзінаў – чалавек справы, прафесіянал у самым высокім сэнсе слова, у той жа час – ён просты, шчыры і добразычлівы.*

# З передвыбарнай праграмы

## КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ІВАЦЭВІЦКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУЗЕ № 20 УЛАДЗІМІРА АЛЯКСЕЕВІЧА КУДЗІНАВА

Як зрабіць так, каб кожны грамадзянін, кожная сям'я, увесь народ Беларусі сталі жыць заможна і шчасліва? Як аднавіць эканоміку краіны, ліквідаваць злачыннасць? Як зберагчы фізічнае і маральнае здароўе нашага народа, такога працавітага, добрага і сумленнага? Як захаваць для нашчадкаў нашы лясы і вадаёмы, наогул, родную прыроду? Гэтыя і многія іншыя пытанні турбуюць сёння ўсіх нас – ад школьніка, селяніна, рабочага да вучонага. Вырашэнне ж іх розныя людзі бачаць па-рознаму.

Я перакананы, што шлях да дабрабыту, рэальнае вырашэнне складаных палітычных, эканамічных і сацыяльных праблем ляжыць у прадуманых, паступовых пераўтварэннях грамадства і дзяржавы. Я катэгарычна супраць рэформаў, якія праводзяцца за кошт народа, а тым больш супраць розных эксперыментаў над народам. Лічу, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь павінен складацца з прафесіяналаў – эканамістаў і юрыстаў. Нельга спадзявацца на тое, што дылетанты ў галінах эканомікі і права, якія цяпер прэтэндуюць на мандаты дэпутатаў і звыкла кідаюць заклікі і лозунгі, клянуцца ў вялікай любві да народа, раздаюць абяцанкі-цацанкі, вывядуць Беларусь з эканамічнай багны. Кожны, нарэшце, павінен займацца сваёй справай: шавец – шыць боты, пекар – выпякаць булкі, настаўнік – вучыць дзяцей, доктар – лячыць хворых, ляснік – даглядаць лес...

Уступаючы ў перадвыбарную барацьбу за права бацць абраным у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, прапаную на суд выбаршчыкаў наступную праграму:

– я – чалавек справы, эканаміст па адукацыі і прызванні, не належу ні да адной з існуючых у краіне партый. У выпадку выбрання дэпутатам Вярхоўнага Савета буду абараняць інтарэсы людзей незалежна ад іх палітычных поглядаў, ідэалагічных і рэлігійных перакананняў;

– лічу, што толькі лгуны і палітычныя цынікі могуць абяцаць народу аднаўленне Савецкай улады і Савецкага Саюза, кампенсацыю страчаных грашовых укладаў, бясплатнае жыллё. Нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку, нельга вярнуць тое, што ўжо мінула. Шлях да стабілізацыі эканомікі рэспублікі, паляпшэння дабрабыту народа, ліквідацыі беспрацоўя праходзіць толькі праз прыватызацыю маёмасці пад строгім кантролем дзяржавы і народа, пераўтварэнне адносінаў уласнасці, рыначныя цывілізаваныя адносіны;

– я – за прыярытэт эканамічных адносінаў над палітычнымі, упраўленне эканомікай без адміністрацыйнага ціску і абмежаванняў. Кожнаму чалавеку павінна быць гарантавана права на працу і заработную плату, якая адпавядае затрачаным фізічным і духоўным намаганням і дае магчымасць нармальна жыць, гадаваць дзяцей, адпачываць;

– зямля не павінна быць на цяперашнім этапе развіцця нашага грамадства аб'ектам куплі-продажу. Але яна павінна належыць толькі тым, хто на ёй працуе. Таму неабходна правесці акцыяніраванне калгасаў і саўгасаў з выдачай акцый усім работнікам адпаведна іх працоўнаму ўкладу (незалежна ад таго – працуе чалавек ці знаходзіцца на пенсіі) і штогадовай выплатай акцыянерам часткі даходу;

– падатковая дзяржаўная палітыка павінна спрыяць аднаўленню і развіццю вытворчасці ў розных галінах гаспадаркі, а не тармазіць гэты працэс;

– Беларусь – суверэнная, незалежная дзяржава і такой павінна застацца назаўсёды. Я – толькі за раўнапраўнае эканамічнае супрацоўніцтва з усімі краінамі як Усходу, так і Захаду;

– захаванне грамадскага міру і нацыянальнай згоды ў рэспубліцы – гарантыя нашага адраджэння;

– ніякіх палітычных ці ваенных саюзаў – беларускія хлопцы павінны выконваць свой воінскі абавязак толькі на тэрыторыі рэспублікі. Даць права выбару альтэрнатыўнай службы тым юнакам, якія яе дамагаюцца;

– кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь павінен паважаць мову, звычаі, абрады, нсравы беларускага народа. Беларуская мова павінна быць дзяржаўнай мовай;

– аказанне дзяржаўнай падтрымкі развіццю нацыянальнай беларускай культуры. Лічу, што адраджэнне народа немагчыма без адраджэння духоўных каштоўнасцей;

– свабода кожнага грамадзяніна Беларусі ў выбары веравызнання;

– рашучая, паслядоўная, бескампрамісная барацьба са злачыннасцю і карупцыяй. Кожны грамадзянін, які звяртаецца ў органы аховы парадку, павінен атрымаць сапраўдную прававую дапамогу і абарону;

– паклапаціцца аб рэальным паляпшэнні становішча жанчыны;

– усямерная падтрымка моладзі пры вырашэнні яе праблемаў. Выдача маладым сем'ям доўгатэрміновых ільготных крэдытаў на будаўніцтва жылля і абзавядзенне хатняй гаспадаркай;

– пенсіянеры, інваліды, студэнты, маламаёмныя людзі павінны атрымліваць такія пенсіі, дапамогі, стыпендыі, якія дадуць ім магчымасць жыць паўнацэнным жыццём; дабрачыннасць павінна стаць нормай жыцця;

– выплата дзяржаўных датацый пенсіянерам, інвалідам і малазабяспечаным сем'ям на карыстанне камунальнымі паслугамі;

– гарантаванае дзяржавай права кожнага грамадзяніна Беларусі на бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, адукацыю;

– гарантаваная дзяржаўная падтрымка праграмы ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС;

– спыніць заганную практыку прадастаўлення шматлікіх розных прывілеяў забяспечанай частцы грамадзян, у тым ліку і дэпутатам Вярхоўнага Савета;

Калі выбаршчыкі даверацць мне мандат дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, то я зраблю ўсё магчымае для выканання дадзенай праграмы. Гарантыя гэтаму – мая маладосць, энергія, справа, якой займаюся.

